На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

**№ 229(581)**

Аўторак, 22 снежня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Пазіцыя**

*Сямён ДОМАШ:*

## "Альтэрнатывы аб'яднанню дэмакратычных сіл няма"

*29 кастрычніка бягучага года ў "Народнай волі" была надрукавана заява грамадскіх і палітычных арганізацый Гродзеншчыны. Якія былі яе мэты? На гэта і іншыя пытанні адказвае член прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання старшыня Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва" Сямён ДОМАШ.*

— У першую чаргу мы імкнуліся звярнуць увагу сталічных палітыкаў на тое, што надышоў час рашуча пашырыць іх дзейнасць за межы мінскай кальцавой дарогі, накіраваць намаганні на стварэнне шырокай аб'яднанай апазіцыі, прыцягваючы арганізацыі самай рознай палітычнай арыентацыі. Хопіць цягацца за чубы і спрачацца, хто найпершы... Ніхто не мае права забываць, што ў нас няма большай агульнай каштоўнасці, чым наша Беларусь.

**— І што, мінская палітычная эліта прысела на заднія лапкі ад такога нечаканага кроку правінцыйных дзеячаў?**

— Па-першае, калі хто лічыць, што 83 працэнты выбаршчыкаў — гэта правінцыя, і лёс краіны можна вырашаць без іх, дык я так не думаю. Па-другое, рэакцыя самая розная. Большасць з разуменнем паставілася да нашай ініцыятывы. Дарэчы, станоўчыя водгукі ў асноўным прыйшлі з рэгіёнаў Беларусі. Але былі і такія, хто аднёсся негатыўна, нават распачаў працу па дыскрэдытацыі і нашых прапаноў, і асобных падпісантаў. Мы атрымалі таксама пісьмы грамадзян, у якіх выказваецца падтрымка, гучаць парады, як дасягнуць намечанага. Ёсць, праўда, лісты, напоўненыя песімізмам.

**— І ў гэтым, здаецца, ёсць рацыя. Як і ў тым, што перадавая частка грамадства павінна быць абавязкова палітычна актыўная.**

— Мы хочам даць надзею ўсім свядомым, сумленным грамадзянам, хочам разбудзіць занадта талерантных і яўна абыякавых. А гэта пад сілу толькі аб'яднаным намаганням палітычных і грамадскіх арганізацый, сябры якіх бачаць будучую Беларусь цывілізаванай, дэмакратычнай, еўрапейскай краінай. Гісторыя сведчыць, што ў шмат якіх народаў былі і горшыя часы. Але яны выходзілі з крызісу і пазней дасягалі нават большых поспехаў (напрыклад, Германія ці Японія), чым народы, у якіх на той час усё было гладка.

Шмат залежыць ад таго, якія высновы мы зробім з сённяшняга нашага становішча. Акрамя таго, у цяперашніх умовах толькі аб'яднанне сіл дапаможа выстаяць. Адна справа, неўпрыкмет ліквідаваць арганізацыю з 15—20 сябрамі, і зусім іншая, калі згуртаванне налічвае тысячы, дзесяткі тысяч чалавек. З'яўляецца магчымасць бараніць адзін аднаго. Моцная структура ў стане забяспечыць праўдзівае інфармаванне насельніцтва, здолее знайсці матэрыяльныя рэсурсы для сваёй дзейнасці, наладзіць сувязі з партнёрамі. Тым больш што будучыя выбары немагчыма выйграць без адзінства.

**— Вы часта спасылаліся на вопыт Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва". Якім чынам вам удалося дасягнуць кансалідацыі?**

— Нагадаю, што наш Камітэт налічвае 32 грамадскія і палітычныя арганізацыі Гродзеншчыны. Нас аб'ядноўвае агульнасць інтарэсаў і адначасова магчымасць захавання разнастайнасці поглядаў, выказвання ўласных меркаванняў. Кожны мае свой голас, ведае, што яго думка будзе пачута і ўлічана. Мы імкнёмся прымаць узгодненыя рашэнні і абавязкова выпрацоўваем іх калектыўна. Гэтую атмасферу ўзаемаразумення пераносім на працу з іншымі арганізацыямі, якія не ўваходзяць у склад Каардынацыйнага камітэта, аднак наладзілі з намі трывалыя адносіны. Напрыклад, гэта было прадэманстравана ўлетку, калі ў Гродне адбылася Асамблея грамадскіх арганізацый вобласці. Сабралася каля 80 прадстаўнікоў. Выказаліся ўсе, хто жадаў, — і ў выніку дамовіліся, што будзем падтрымліваць цесныя сувязі, выпрацоўваць накірункі сумесных дзеянняў. 52 кіраўнікі падпісаліся пад тэкстам узгаданай заявы грамадскіх і палітычных арганізацый Гродзеншчыны. Яшчэ з дзесятак жадаўшых падпісацца мы наўмысна прытрымалі, таму што людзі маюць працу ў дзяржаўных установах і подпіс мог прынесці ім, а таксама грамадскім арганізацыям сур'ёзныя праблемы.

Трывалы падмурак нашай дзейнасці дазволіў падрыхтаваць і правесці 5 снежня ў горадзе мітынг пратэсту працоўных супраць іх збяднення. Сябры "Гродзенскай ініцыятывы" дапамаглі арганізаваць гэта мерапрыемства афіцыйным, незалежным і свабодным прафсаюзам, прадпрымальнікам, ветэранам вайны і працы. Больш за тры тысячы ўдзельнікаў мітынгу выступілі пад лозунгамі "Не — жабрацтву!", "Народу Беларусі — еўрапейскі ўзровень жыцця!". Прынамсі, для Мінска гэта было б мерапрыемства з удзелам да 20 тысяч чалавек. Рэзалюцыя мітынгу накіравана на адрас улад. Калі яны прамаўчаць, нагадаем яшчэ раз, але куды больш дзейсным чынам.

**— І ўсё ж не даюць спакою словы з заявы, дзе гаворыцца, што "сталічныя лідэры асноўных апазіцыйных сіл з-за адарванасці ад рэальнага жыцця і з-за асабістых амбіцый аніяк не могуць аб'яднацца". Гэта нават не каменьчык, а булыжнік у мінскі агарод...**

— Па-першае, тое, што сталічныя лідэры да апошняга часу ніяк не маглі аб'яднацца, гэта відавочна ўсім. Па-другое, мы патрабуем ад вядучых беларускіх палітыкаў заняцца, нарэшце, стваральнай працай. Бо сёння ніводная партыя ці грамадскі рух не могуць паасобку вырашыць лёс Бацькаўшчыны. Але, аб'яднаўшыся, могуць. Калі аб'яднанне не адбудзецца, прайграюць усе, а найперш — Беларусь. Мы можам страціць надзею на пабудову дэмакратычнай беларускай дзяржавы ў бліжэйшыя гады. Магчыма, і на дзесяцігоддзі. Час палітычных гульняў даўно скончыўся. Калі Мінск не здолее стаць цэнтрам аб'яднання, мы гатовы ствараць такі цэнтр у Гродне. Але Мінск — сталіца нашай краіны, і я лічу, што будзе лепш, калі гуртаванне пачнецца адтуль.

**— Вы заклікаеце палітыкаў з Мінска зрабіць рашучы крок, а самі, мабыць, у гэта не верыце. Каб заява не засталася толькі словамі, якія захады павінны зрабіць рэгіёны?**

— Я ўсё ж такі не губляю надзею, што аб'яднанне пойдзе з Мінска. Але калі гэта не адбудзецца, мы прыцягнем нашы аб'яднаўчыя высілкі, працуючы з беларускімі рэгіёнамі. Мы гатовы дзеля гэтага завітаць да ўсіх тых, хто ў першую чаргу думае пра Беларусь. Паспрабуем распачаць кансалідацыю ад гарадоў і раёнаў. Хачу падкрэсліць, што і ў гэтым выпадку мы не столькі будзем імкнуцца да стварэння апазіцыі Мінску, колькі падштурхоўваць сталічную эліту пачаць аб'яднаўчыя дзеянні, задумацца над сваім месцам у раскладцы палітычных сіл.

Дарэчы, калі вызначаць галоўныя мэты асноўных апазіцыйных сіл на Беларусі, дык, па-мойму, іх тры: дабрабыт, сацыяльная справядлівасць, чалавечая і нацыянальная годнасць. Усе яны неабходны нашаму народу. Але дасягненне кожнага з гэтых накірункаў магчыма толькі ў незалежнай Беларусі. Таму варта палітычным сілам займацца не спрэчкамі, чые мэты найлепшыя, а накіраваць сваю энергію на стварэнне агульнай праграмы, напрыклад, пад лозунгам "Народу Беларусі — дабрабыт, годнасць, справядлівасць!" Варта размеркаваць абавязкі асноўных апазіцыйных сіл па дасягненні кожнай з названых мэт, а таксама падрыхтавацца да вылучэння агульнага лідэра. Упэўнены, з пачаткам рашучай рэалізацыі такіх дзеянняў пачнецца адлік апошніх дзён існавання на Беларусі сённяшняга аўтарытарнага, разбуральнага рэжыму.

**— На сёння ўжо некалькі чалавек заявілі пра жаданне пазмагацца за прэзідэнцкае крэсла. Вашы дзеянні даюць падставу меркаваць, што і вы не супраць авалодаць прэзідэнцкім кабінетам?**

— Лічу, што пра гэта гаварыць рана. Ніхто пакуль не аб'яўляў прэзідэнцкіх выбараў. Гэта, дарэчы, прэрагатыва Вярхоўнага Савета. Акрамя таго, калі дзейнічаць у адпаведнасці з законам, то выбары прэзідэнта павінны праводзіцца па Канстытуцыі 1994 года, таму што рэферэндум 1996 года праводзіўся з вялікімі парушэннямі заканадаўчых норм і яго вынікі беспадстаўныя, яны не прызнаюцца нават міжнароднай супольнасцю.

Што да прэтэндэнта ў прэзідэнты ад аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі, дык у нашых умовах ён павінен быць кваліфікаваным спецыялістам, добрым арганізатарам, здольным стварыць каманду і даць надзею людзям, мець адпаведны вопыт працы, схільнасць да кіравання кааліцыйным урадам, быць здольным наладзіць узаемавыгаднае супрацоўніцтва з Усходам і Захадам. Але ў першую чаргу такі чалавек павінен накіроўваць усе свае намаганні на абарону інтарэсаў народа Беларусі. Вельмі істотна, каб прэтэндэнта ўспрымалі людзі. Баюся, некаторых вылучэнцаў можа спасцігнуць фальстарт. Я асабіста толькі за адзінага кандытата ад аб'яднаных дэмакратычных сіл. Хопіць падрываць апошнюю веру ў нашых людзях і смяшыць суседзяў. Няўжо мы настолькі неразумныя, каб не быць здольнымі ўлічыць папярэдні горкі досвед...

**— А ці мае беларуская апазіцыя годных людзей, якія маглі б паспяхова кіраваць краінай?**

— Здольных палітыкаў у нас шмат. Іншая справа, што гэтыя імёны ўлада замоўчвае, забараняе ўзгадваць у сродках масавай інфармацыі. Нават у суседняй Расіі ёсць магчымасць выказваць шырокі спектр думак, і нікому не прыходзіць у галаву абмяжоўваць інфармацыйнае поле толькі паведамленнямі з Адміністрацыі прэзідэнта і ўрада. У нас улады спецыяльна ствараюць уражанне, што на Беларусі адсутнічае альтэрнатыва існуючаму рэжыму, што, нібыта, у апазіцыі няма людзей, якія маглі б скласці канкурэнцыю цяперашняму прэзідэнту. Такія людзі ёсць, і трэба зрабіць усё, каб пра іх ведалі людзі.

**— Вы сур'ёзна верыце, што беларускі палітычны воз выцягнуць менавіта рэгіёны?**

— Адкажу так: без рэгіёнаў ніякай сур'ёзнай палітыкі на Беларусі быць не можа. Час прыспешвае апазіцыю ўлічваць гэтыя абставіны і заняцца канкрэтнай паўсядзённай работай.

Наша заява нацэльвае менавіта на гэта.

**Гутарыў Антон ЛАБОВІЧ.**

Гродна.

**Віншуем!**

## Беларускія пісьменнікі — кавалеры ордэна Трох Зорак

Ганаровай латышскай узнагароды — ордэна Трох Зорак — удастоены беларускія літаратары Сяргей Панізнік і Васіль Сёмуха. Да гэтай узнагароды іх прадставіў Саюз пісьменнікаў Латвіі.

Кавалерамі ордэна Трох Зорак беларускія літаратары сталі за сваю перакладчыцкую дзейнасць і культурна-грамадскую работу: Сяргей Панізнік узначальвае таварыства дружбы "Беларусь — Латвія".

У мінулым годзе такая ж узнагарода была ўручана Рыгору Барадуліну.

**Аксана ПІВАВАР, БелТА.**

## Руководитель консультационно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси Х.-Г.Вик посетил колонию, в которой отбывает наказание депутат Верховного Совета Владимир Кудинов

На днях руководитель консультационно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси Ханс-Георг Вик встретился с депутатом Верховного Совета 13-го созыва Владимиром Кудиновым, который отбывает наказание в исправительно-трудовой колонии за попытку дачи взятки. Об этом БелаПАНу сообщила жена осужденного Зоя Кудинова.

По ее словам, во время встречи с руководителем КНГ ОБСЕ В.Кудинов обратил внимание господина Вика на то, что его жалоба в комитет по правам человека ООН, отправленная несколько месяцев тому назад, до сих пор не дошла до адресата. В свою очередь руководитель группы ОБСЕ посоветовал Владимиру Кудинову направить копию его заявления в представительство ОБСЕ в Беларуси. Зоя Кудинова сообщила также, что господин Вик высказал свое восхищение мужеством депутата, который, даже находясь в колонии, продолжает активно интересоваться политической жизнью своего государства.

В представительстве ОБСЕ в Минске корреспонденту БелаПАН подтвердили факт встречи г-на Вика с Владимиром Кудиновым, подчеркнув при этом, что сотрудники консультационно-наблюдательной группы регулярно наносят ознакомительные визиты в исправительно-трудовые учреждения республики.

**Юрий ПОТЕМКИН.**

## Запасов мазута на Бобруйской и Могилевской ТЭЦ оставалось меньше, чем на неделю

В очень тяжелой ситуации оказалось Могилевское областное объединение энергетики и электрификации "Могилевэнерго": несколько дней назад запасов мазута на Бобруйской и Могилевской ТЭЦ оставалось меньше, чем на неделю.

Потребители задолжали "Могилевэнерго" два триллиона 200 миллиардов рублей за энергоносители; объединение в свою очередь должно больше двух триллионов рублей своим поставщикам.

**Екатерина АВСЕЕНКО.**

## Большасць апытаных сацыёлагамі мінчан лічаць, што развіццю прадпрымальніцтва ў сталіцы перашкаджаюць жорсткая падатковая палітыка і самавольства чыноўнікаў

39 працэнтаў мінчан лічаць, што сёння ў сталіцы Беларусі адсутнічаюць сацыяльныя, эканамічныя і прававыя ўмовы для паспяховай дзейнасці прадпрымальнікаў. Такія дадзеныя сацыялагічнага апытання, праведзенага Мінскім НДІ сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем сярод 800 жыхароў беларускай сталіцы.

У той жа час практычна кожны трэці (31 працэнт) апытаны мінчанін лічыць, што прадпрымальнікі маюць спрыяльныя ўмовы для паспяховага ажыццяўлення сваёй дзейнасці, але іх цяжка рэалізаваць. Толькі 9 працэнтаў рэспандэнтаў заявілі, што прадпрымальнікі ў Мінску не толькі маюць, але і могуць рэалізаваць сацыяльныя, эканамічныя і прававыя ўмовы для паспяховага ажыццяўлення сваёй дзейнасці. Астатнія не змаглі адказаць.

На пытанне, што перашкаджае развіццю прадпрымальніцтва ў Мінску, большасць апытаных жыхароў сталіцы адказалі: жорсткая падатковая палітыка (55 працэнтаў), а таксама бюракратызм у дзейнасці дзяржорганаў і самавольства чыноўнікаў (51 працэнт). 39 працэнтаў рэспандэнтаў указалі на адсутнасць неабходнай прававой базы і юрыдычных гарантый. Каля трэці адказаўшых назвалі адсутнасць у гарадскіх улад дакладнай праграмы развіцця прадпрымальніцтва (32 працэнты) і непаслядоўнасць у правядзенні рынкавых пераўтварэнняў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

## Около гостиницы "Беларусь" появился корт

В белорусской столице на один крытый корт стало больше. Своеобразный шатер раскинулся около гостиницы "Беларусь".

Оборудование для трех площадок корта поставила известная словенская фирма "Дуол". Всемирная практика показывает, что оборудование такого типа служит не менее 20 лет.

Пользоваться кортом смогут не только клиенты гостиницы "Беларусь", но и горожане. Особое внимание планируется уделить созданию детских групп, с мальчиками и девочками будут заниматься лучшие тренеры страны.

**Оксана ОСПИЩЕВА, БелТА.**



**З першых вуснаў: Станіслаў Шушкевіч — Леанід Краўчук**

## Споведзь "белавежскіх зуброў"

*Сем гадоў таму Вярхоўны Савет ратыфікаваў Белавежскія пагадненні і дэнансаваў саюзны дагавор 1922 года Парламенты Расіі і Украіны зрабілі тое ж яшчэ напярэдадні.*

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ і Леанід КРАЎЧУК, інтэрв'ю з якімі прапануецца вашай увазе, атрымалі ўстойлівую мянушку "белавежскія зубры". Гэтак іх называюць і тыя, хто ўдзячны, што выродлівая імперыя нарэшце сканала, і тыя, хто па цяперашнюю пару дасылае ім праклёны.*

*Я свядома не буду выказваць тут уласнага стаўлення (хаця і маю наконт гэтага трывалы пункт гледжання). Як бы там ні было, сама мянушка паказвае, што ў гісторыю гэтыя кіраўнікі ўвойдуць (ды што там — ужо ўвайшлі) галоўным чынам як палітыкі, якія падпісалі Белавежскія пагадненні і паклалі пачатак існаванню незалежных дзяржаў на ўсёй постсавецкай прасторы.*

*Далей тут, праўда, пачынаецца адрозненне. С.Шушкевіч, у адрозненне ад Л.Краўчука, быў не прэзідэнтам, а толькі старшынёй Вярхоўнага Савета, і меў непараўнальна меншыя паўнамоцтвы. Яны не дазволілі спікеру нашага парламента закласці цвёрды падмурак ні сапраўднай незалежнасці, ні рынкавых пераўтварэнняў, ні накірунку ў Еўропу. Украінскі прэзідэнт гэта зрабіць, мусіць, здолеў.*

*Але ў палітычным лёсе двух "белавежскіх зуброў" шмат рыс падабенства. І Л.Краўчук, і С.Шушкевіч не затрымаліся на вышэйшых пасадах. І той, і другі працягваюць палітычную дзейнасць. Абодва сталі дэпутатамі парламентаў. Абодва ўступілі ў сацыял-дэмакратычныя партыі, якіх і ў Беларусі, і на Украіне маецца багата.*

**— Калі вы падпісвалі Белавежскія пагадненні, вы ўсведамлялі, што адзінай дзяржавы ўжо не будзе ні ў якой форме, што СНД — гэта нешта зусім іншае?**

**Леанід Краўчук:** — Пасля рэферэндуму я і не мог падпісаць нічога такога, што працягвала б існаванне Украіны ў складзе іншай дзяржавы. Рэферэндум быў праведзены па ўсіх дэмакратычных нормах, з еўрапейскімі і айчыннымі назіральнікамі, і фармулёўка не дапускала разначытанняў. Тое, што я зрабіў у Віскулях, было выкананнем волі народа.

У Беларусі і Расіі рэферэндумаў не было, але былі легітымныя рашэнні Вярхоўных Саветаў, якія ратыфікавалі Белавежскія пагадненні. Усё было па міжнародных нормах. І ў адпаведнасці з канстытуцыяй Савецкага Саюза, дзе было запісана, што кожная нацыя мае права на самавызначэнне аж да аддзялення.

**Станіслаў Шушкевіч:** — Мы ўсе разумелі, што ў СНД аб'ядноўваюцца менавіта незалежныя дзяржавы. Я выдатна ведаў, колькі гадоў у Беларусі пануюць расійскі царызм і расійскі бальшавізм, што ўсе гэтыя гады Беларусь фактычна была калоніяй, падпарадкаванай іншай дзяржаве і што свае пытанні трэба вырашаць самім. Беларусь перш за ўсё павінна бараніць сваіх грамадзян, і тут лепей, чым з Масквы, бачна, як гэта рабіць. Я быў упэўнены, што мы здольныя жыць лепш і маем шанец гэта ажыццявіць. Але, калі я падпісваў гэты дакумент, у мяне не было такога пафасу, што адбываецца вялікая падзея, — мы проста рабілі справу, неабходную ў той момант.

**— Калі вам стала ясна, што Савецкі Саюз нежыццяздольны?**

**С.Ш.:** — Вы задаёце вельмі складанае пытанне. Пасля путчу гэтая дзяржава была канчаткова знявечаная, але ж яна з самога пачатку была ўсталяваная на вывернутых, ненармальных асновах. Памятаю, наш вядомы пісьменнік і публіцыст Алесь Адамовіч пісаў, што Савецкі Саюз уяўляе сабою пачварную краіну, якая накіравала на ўвесь свет ядзерныя ракеты і наводзіць на ўсіх страх.

Але я не ведаю, калі я гэта зразумеў. Многае я не зразумеў па сённяшні дзень і не саромеюся гэтага. Працавала ідэалагічная машына, і гэтая сістэма нейкай часткай увайшла ў кожнага, хто нарадзіўся і жыў у Савецкім Саюзе. Я сам, ужо пасля ратыфікацыі Белавежскіх пагадненняў, шмат разоў з раніцы меў адчуванне, што прачынаюся ў СССР. Мяне не здзіўляе, што многія людзі не пераадолелі настальгію па Савецкім Саюзе — гэта не іх віна, гэта іх бяда.

**Л.К.:** — Я гэта адчуў у 1989 годзе. Тады пачаліся міжнацыянальныя канфлікты (у тым ліку крывавыя), рух у розных рэспубліках за свабоду і незалежнасць (які часам жорстка падаўляўся). Да таго ж пагаршалася эканамічнае становішча. Памятаю, прыязджаю я ў трактарную брыгаду, насустрач ідуць трактарысты, выставіўшы перад сабою свае чорныя, брудныя рукі — няма дзе мыла ўзяць. Цяпер многія на гэта забыліся: немагчыма было нічога купіць, літаральна за ўсім стаялі чэргі. Тады мяне скалыхнула і я зразумеў: Савецкі Саюз не ўстаіць.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

## Клоп-черепашка угрожает будущим посевам пшеницы

Будущим посевам пшеницы может быть нанесен ощутимый урон. Об этом корреспонденту БелТА заявила главный инспектор Комитета по хлебопродуктам при Минсельхозпроде Елена Ананич.

Угроза, по мнению специалиста, исходит от клопа-черепашки. Этот опасный вредитель в период созревания зерна выедает в нем белковую массу. Дальнейшее использование такого зерна ограничено.

В 1998 году Брестская и Гомельская области сдали в госресурс свыше 9 тысяч тонн зерна, пораженного клопом-черепашкой. Удивительно, отмечает Елена Ананич, что до этого на протяжении многих лет клопа-черепашки в республике обнаружено не было. Поэтому вполне вероятно, что пораженная им пшеница завезена из-за пределов страны.

Если же зерно выращено на наших землях, то будущее пшеничных посевов в Беларуси представляется весьма незавидным. В настоящее время, сообщила Елена Ананич, специалисты работают над установлением истинных причин появления зараженного зерна. Однако в любом случае его производителям необходимо принять все меры к тому, чтобы исключить распространение опасного вредителя.

**Олег ШВЕДОВ, БелТА.**

**Зеркало**

### ЛИТВА

## Валдас Адамкус обладает самым высоким рейтингом доверия

Популярность президента Литвы Валдаса Адамкуса продолжает расти. Об этом свидетельствуют итоги опроса, проведенного Центром исследований общественного мнения "Вилморус" при участии 1000 респондентов.

Так, в декабре деятельность В.Адамкуса положительно оценили 85,8 процентов участников опроса, а отрицательно — 3,5 процента, т.е. перевес его положительных оценок над отрицательными составил 82,3 пункта, тогда как в ноябре этот показатель составлял 81,2 пункта.

За В.Адамкусом следуют его бывший соперник на президентских выборах, депутат сейма (парламента) Казис Бобялис, у которого перевес положительных оценок составляет 54,9 пункта; председатель выдвинувшей В.Адамкуса на президентских выборах партии "Союз центра", вице-спикер сейма Ромуалдас Озолас (38,9); мэр Вильнюса Роландас Паксас (37,7) и депутат сейма Витянис Андрюкайтис (30,8).

За последний месяц снизилась популярность премьер-министра Гедиминаса Вагнорюса — у него перевес положительных оценок над отрицательными уменьшился с 14,5 до 3,6 пункта. В списке из 30 популярнейших политиков Литвы он "съехал" с 12-й на 18-ю позицию.

Самый низкий рейтинг среди политиков оказался у лидера партии "Союз Отечества", спикера Витаутаса Ландсбергиса: его деятельность положительно оценили 17,7 процента респондентов, а отрицательно — 60,1 процента, т.е. превышение суммы отрицательных оценок над положительными составляет 42,4 пункта, тогда как в ноябре оно составляло 40,8. Спикер по итогам опроса занимает последнюю, 30-ю позицию.

Примечательно, что глава государства стал лидером и по результатам другого опроса — определения рейтинга доверия политикам. Анкетирование проводилось при участии 1024 жителей Литвы литовско-британской компанией "Балтийские исследования"/Gallup.

### США

## Вашингтон обеспокоен сообщениями об исчезновении иранских писателей

Соединенные Штаты выражают обеспокоенность в связи с недавними сообщениями о фактах смерти и исчезновения писателей-диссидентов в Иране.

Согласно имеющимся сообщениям, Мохаммад Джафар Пойандех исчез 9 декабря, два других писателя были найдены убитыми при невыясненных обстоятельствах в прошлом месяце. По информации прессы, Пойандех был среди восьми основных критиков политики правительства, которые пытались создать ассоциацию писателей. Два месяца назад писателей привлекли к суду, чтобы они ответили на вопросы о своей деятельности.

"Мы обеспокоены растущей в Иране тенденцией к насилию в отношении писателей и ряда других лиц, выражающих свое недовольство. Мы отмечаем, что несколько недавних фактов такого насилия остались нерасследованными", — сказал представитель Госдепартамента США Фоли.

## Олбрайт планирует нанести визит в Россию в январе

Госсекретарь США Олбрайт планирует посетить Россию в январе, хотя точная дата еще не определена, сообщил представитель Госдепартамента Фоли журналистам.

По словам Фоли, во время своего визита Олбрайт будет обсуждать широкий диапазон двусторонних вопросов, включая проблемы нераспространения, проблемы российской экономики и региональные проблемы, такие как Косово, Босния и Ближний Восток.

### МОЛДОВА

## Петр Лучинский считает сделку с продажей США молдавских самолетов МИГ-29 выгодной для республики...

Президент Молдовы Петр Лучинский считает сделку с продажей США 21 молдавского самолета МИГ-29 выгодной для республики.

Самолеты были проданы год назад по договоренности между правительствами США и Молдовы за 40 миллионов долларов.

На прошлой неделе парламент Молдовы завершил расследование обстоятельств этой сделки и пришел к выводу о ее незаконности, так как проданные самолеты не были включены в список техники, которую разрешено реализовывать за рубеж.

Пресс-секретарь молдавского лидера А. Голи назвал это обвинение "необоснованным". Он отметил, что в результате данной сделки "государство ничего не потеряло, так как самолеты были проданы без посредников, которые, как правило, получают львиную долю прибыли при таких сделках".

**Крымінал**

## Дэбашыра на граніцы ўціхаміраць

Паўтара года пазбаўлення волі - такі прыгавор вынесены грамадзяніну А.Захараву за супраціўленне гродзенскім мытнікам.

Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ў Дзяржкамітэце пагранічных войскаў, Захараў быў затрыманы за парушэнне пагранічнага рэжыму. На просьбу прад'явіць дакументы ён аказаў актыўнае супраціўленне і ўдарыў пагранічніка. Нарад, які прыбыў на месца здарэння, быў вымушаны прымяніць сілу і нават зрабіць папераджальны выстрал, каб уціхамірыць дэбашыра.

У выніку была ўзбуджана крымінальная справа за аказанне супраціўлення і выкарыстанне яўна падложных дакументаў. Суд Гродзенскага раёна прызнаў Захарава вінаватым і вынес прыгавор.

**БелТА.**



## Рижские студенты отстаивают права белорусов

Пикет, который был проведен студентами рижского университета возле белорусского посольства, имел большой резонанс в латвийских СМИ. Об этой акции, организованной по инициативе Хартии'97, написали 12 крупнейших латвийских газет, в том числе "Республика", "СМ Сегодня", "Час", "Бизнес и Балтия", "Neatkarige Rita Avize", "Jaune Avize", "Diena", "Spogulis", обе вечерние газеты Латвии - "Rigas Balss" и "Vakara Zinas". Общий тираж этих изданий составляет более 600 тысяч экземпляров. Около 10 FM-станций и несколько телекомпаний Латвии также отвели акции в поддержку прав человека в Беларуси часть своего эфирного времени.

Пресс-секретарь МИДа Латвии Томас Бауманис, комментируя пикет в интервью газете "Диена", заявил:

"Латвия сообщает, что у нас есть разные понятия о правах человека с белорусской стороной. Беларусь не стремится интегрироваться в европейские институты, поэтому в этом государстве медленное развитие".

Пикетирование посольства прошло под требованиями соблюдения прав человека и свободы слова в Беларуси. Участники акции держали в руках портреты заключенных Андрея Климова, Владимира Кудинова и Алексея Шидловского, плакаты с надписями "Жыве Беларусь!", "Хартыя'97" и "Свободу политзаключенным!", а также письмо к президенту Лукашенко, которое потом было передано в посольство. В этом письме, в частности, говорится:

"Господин Президент,

Мы призывам Вас и правительство Республики Беларусь соблюдать обязательства вашей страны, которые она несет в соответствии с международными соглашениями в области прав человека.

Мы призываем белорусские власти незамедлительно освободить политических заключенных, а также прекратить преследования активистов демократических партий и профсоюзов.

Мы выражаем свою солидарность с демократическими силами Беларуси, общественными движениями и организациями, отстаивающими принципы демократии и права человека".

Участники пикета намерены послать открытые письма в МИД, парламенту и президенту, чтобы те ответили на вопросы, касающиеся отношения латвийских властей к нынешней ситуации в Беларуси.

**Пресс-центр Хартии-97.**

**Газета — чытач**

## Да хуткай сустрэчы, сябры!

**Што і казаць, дажыліся: то ў адной, то ў другой газеце з'яўляюцца аб'явы аб тым, што на некалькі дзён выхад выдання спыняецца. Такі лёс не абмінуў нават прэзідэнцкія сродкі масавай інфармацыі.**

**"Народная воля" трымалася з усіх сіл — нават не верыцца, што на працягу года мы змаглі рэгулярна сустракацца з Вамі, шаноўныя сябры, на старонках нашага выдання. Але сёння з горыччу вымушаны сказаць: да канца снежня выхад газеты будзе нерэгулярным. Калі атрымаеце наступны нумар — на даны момант нават не можам сказаць. Прычына — фінансава-матэрыяльныя цяжкасці.**

**Не крыўдуйце на нас, паважаныя чытачы. Мы зрабілі, здаецца, больш, чым маглі. Але...**

**Сёння ўсе нашыя намаганні скіраваны на тое, каб з першых дзён 1999 года "Народная воля" рэгулярна трапляла ў Вашыя рукі. Вядома ж — з самымі вострымі, з самымі цікавымі публікацыямі.**

**Словам, да хуткай сустрэчы, шаноўныя сябры!**

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

## Дело об убийстве Миколуцкого передано в Верховный суд

Завершилось предварительное следствие по факту теракта, в ходе которого в Могилеве был убит Евгений Миколуцкий.

По информации, полученной БелТА в республиканской Прокуратуре, по этому делу предъявлено обвинение трем гражданам Беларуси, которые арестованы и находятся под стражей. В ходе расследования изъято значительное количество огнестрельного и холодного оружия, боеприпасов, взрывчатых веществ, а также спецсредств для перехвата информации и связи.

Прокуратура направила уголовное дело с обвинительным заключением в Верховный суд Республики Беларусь.

**БелТА.**

З першых вуснаў: Станіслаў Шушкевіч — Леанід Краўчук

# Споведзь "белавежскіх зуброў"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— У вас не было ілюзій, што гарбачоўскія ініцыятывы выратуюць Савецкі Саюз?**

**А.К.**: — Гарбачоўскія ініцыятывы нешта змянялі толькі на слоўным узроўні, але не па сутнасці. Я казаў Гарбачову, што, калі ён хоча зрабіць нешта сур'ёзнае, трэба не баяцца сур'ёзна мяняць усю сістэму — і тады мы яго падтрымаем. Але ён думаў, што прыгожых слоў дастаткова.

**С.Ш.**: — У верасні 91-га года я зразумеў, што Гарбачоў, які раней зрабіў вельмі многа добрага, больш няздольны ні на адзін разумны крок у накірунку дэмакратыі, рынку, правоў чалавека.

**— Чаму, на вашую думку, СНД "правалілася"?**

**С.Ш.**: — Яна не "правалілася". На маю думку, ва ўмовах непазбежнага распаду на асобныя дзяржавы СНД выканала сваю галоўную функцыю: забяспечыла цывілізаваны развод. Далейшая работа — значна цяжэйшая. Часта даводзілася чуць: маўляў, напрымалі 600 пастаноў — ні адна не працуе. Яны і не могуць працаваць, калі не праведзеныя ў незалежных дзяржавах праз нацыянальнае заканадаўства. Гэта ж ужо міждзяржаўныя адносіны — розныя падыходы, розныя пазіцыі.

**Л.К.**: — Калі казаць шчыра, калі б Белавежскія пагадненні аб СНД былі выкананыя насамрэч, у нас было б зусім іншае становішча — і палітычнае, і эканамічнае. Там былі закладзеныя вельмі цікавыя схемы — аб палітычным супрацоўніцтве, аб эканамічным адзінстве, аб інфармацыйнай прасторы, аб межах — з пункту гледжання нармальнага аб'яднання незалежных дзяржаў. Але пагадненні хутка сталі чыста фармальнымі. Чаму гэтак атрымалася? Таму што амаль адразу пачаліся захады ў накірунку больш шчыльнага аб'яднання. Спачатку Ельцын выступіў за тое, каб стварыць нейкія наддзяржаўныя структуры з вялікімі паўнамоцтвамі. Потым Нурсултан Назарбаеў прапанаваў ідэю Еўра-Азіяцкага саюза. Распрацоўка статута СНД, асноў эканамічнага саюза — усё рабілася без належнага асэнсавання, ішло навалам — давай хутчэй аб'яднанне! Ды не гатовыя мы былі хутчэй — народ толькі-толькі адчуў смак незалежнасці! Тым больш што Расія свае дзеянні ўзгадняць ні з кім не хацела — ідзіце, маўляў, за намі, рабіце, што і мы. Але ж гэта немагчыма.

Нічога не змаглі падзяліць. Валютны запас, залаты запас — Расія забрала ўсё сабе. Зберажэнні грамадзян Украіны — 83 млрд. рублёў — цалкам перайшлі ў Расію. А гэта ж не тое, што прадпрыемства з прадпрыемствам не разлічылася, — гэта асабістыя грошы людзей, якія яны згубілі. Што ж гэта такое? Гэта не павінна быць магчымым у прынцыпе.

**— А ці ставілася досыць настойліва перад Расіяй пытанне пра валютны і залаты запасы?**

**Л.К.**: — А як жа! Украіна патрабавала гэтага пастаянна — і калі б астатнія краіны нас падтрымалі, я перакананы, што Расія мусіла б з гэтым лічыцца. А то я стаўлю пытанне — а іншыя пускаюць дыпламатычныя пухіры: мы, маўляў, пакуль не гатовыя, давайце адкладзём. У рэшце рэшт нічога не вырашылі. Усё гэта спарадзіла супярэчнасці і па іншых праблемах, недавер адно да аднаго, часам абвостраныя адносіны.

**С.Ш.**: — Усе гэтыя пытанні ставіліся, і вельмі востра. Але яны былі нявырашальныя, бо Расія падмяла ўсё пад сябе і ні аднаго граму маёмасці ў замежжы, не кажучы пра золата і валюту, нікому не дала. Узамен яна ўзяла на сябе ўсе даўгі. Гэта нас не задавальняла, мы б хацелі, каб гэта вырашылася інакш. Дык што ж было — бойкай на Расію ісці?

Што тычыцца залатога і валютнага запасу — я добра ўсведамляў, што тут мы не зварухнёмся. А наконт маёмасці ў замежжы — былі спадзяванні, што Расія падзеліцца, бо дзенідзе гэтая маёмасць проста гніе. Напрыклад, у Турцыі Расія мае гіганцкую тэрыторыю, якая не скарыстоўваецца; у будынкі страшна заходзіць — настолькі яны запушчаныя, недагледжаныя. Але Расія не дала нават аднаго дамку, каб зрабіць у Турцыі беларускую амбасаду.

Мала таго — Расія нават прэтэндавала на тое, што знаходзіцца на тэрыторыі іншых краінаў СНД. Але тут ужо ніхто Расіі бясплатна нічога не даў, акрамя Беларусі. Лукашэнка вырашыў, што ядзерныя базы на нашай тэрыторыі — расійскія. Няхай будуць расійскімі, але тады хай яна плаціць грошы. Усе іншыя краіны вырашалі падобныя пытанні на пэўных умовах, а не "за так".

**— Ці былі нейкія спробы з боку Ельцына, вобразна кажучы, размаўляць з вамі як з "малодшым братам"?**

**С.Ш.**: — У асабістым плане Ельцын заўсёды паводзіў сябе карэктна. У маёй прысутнасці ён ні разу не сказаў непрыстойнага слова. І ніколі не праяўляў ніякага патэрналізму, мы зносіліся на роўных.

Гэта, між іншым, адрознівае яго ад многіх іншых расійскіх палітыкаў. У Селязнёва, Строева, Чарнамырдзіна — нахабная імперская палітыка і ў справах, і ў словах. У Ельцына — вонкава — ніколі.

Гарбачоў адразу пачаў звяртацца да мяне на "ты". У адрозненне ад яго, у мяне няма партыйнага выхавання, і гэта мяне зневажала. Упершыню Гарбачоў звярнуўся да мяне на "вы", калі я патэлефанаваў яму з Белавежжа — і з таго моманту звяртаецца толькі гэтак.

Дарэчы, жонкі Ельцына і Гарбачова паводзяць сябе, як і іхнія мужы. Наіна Іосіфаўна — вельмі карэктна і сціпла. А Раіса Максімаўна і па гэты час лічыць сябе першай лэдзі свету.

**Л.К.**: — Адкрытых спроб адыгрываць ролю "старэйшага брата" Ельцын не рабіў, бо я ніколі не цярпеў нават мізэрных намёкаў на нераўнапраўе ў адносінах і заўжды імгненна даваў адпор. Наўпрост непаважлівых паводзін не было — але часам быў ускосны ціск, прычым не з боку непасрэдна Барыса Мікалаевіча, а праз іншых афіцыйных асобаў (але не думаю, што без ведама прэзідэнта).

**— Я чаму задаў папярэдняе пытанне: Лукашэнка неяк публічна, па тэлебачанні, з гонарам расказваў, што Ельцын звяртаўся да яго ласкавым словам "сынок".**

**Л.К.**: — Відаць, Ельцын адпаведна ацаніў яго: як "палітычнага сынка", як нецямлівага немаўлятку. Канешне, гэта толькі маё меркаванне, я ж не ведаю, які сэнс ўкладаў у гэта Барыс Ельцын, — аднак сама манера такога звяртання да кіраўніка дзяржавы недапушчальная. Хаця, калі Лукашэнку гэта падабаецца, дык чаму б і не.

**С.Ш.**: — Лукашэнка гэта расказваў тады, калі ставіўся да Ельцына дагодліва і ліслíва. Падобны стыль зносін прыніжальны і для яго асабіста, і для дзяржавы. Толькі такі чалавек, як Лукашэнка, можа гэтым ганарыцца.

**— Што вы думаеце наконт інтэграцыі Расіі і Беларусі?**

**С.Ш.**: — Я зусім не працаўнік эканамічнага збліжэння. Але, папершае, для гэтага павінен быць свабодны рынак. Элементарныя эканамічныя законы, якія на Захадзе ведае кожны, нават самы слабы эканаміст, — у Беларусі на сённяшні дзень не зразумелі тыя, хто кіруе дзяржавай. Па-другое, трэба ясна ўсведамляць, чаго мы хочам, свае інтарэсы, і рабіць, як будзе найбольш зручна. А не інтэгравацца па прымітыўным прынцыпе "Мы без единой великой России не проживем", як гаворыць Лукашэнка.

**Л.К.**: — Фармальна саюз Расіі і Беларусі ёсць. Рэальна ён не дзейнічае. Калі ў Расіі хаця б робіцца выгляд нейкіх сур'ёзных рэформ, дык у Беларусі ўсё на ранейшых пазіцыях. Аб'яднаць такія розныя сістэмы проста немагчыма.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ.**

Жизнь как она есть

Очередь за яйцами на улице возле специализированного магазина в Минске не пропускает в магазин молодого человека. Свое желание войти он объяснял тем, что в магазине стоит в очереди его жена, но его все равно не пропустили и оттеснили от дверей. По рассказам покупателей, чтобы купить два десятка яиц, стоять приходится по 3—3,5 часа.

**Фото IREX/ProMedia.**

## За здароўем — у саляныя пакоі

Напэўна, нямногія ведаюць аб тым, што адзін з буйнейшых у Еўропе пастаўшчыкоў солі — адкрытае акцыянернае таварыства "Мазырсоль", што ў Гомельскай вобласці, з'яўляецца яшчэ і своеасаблівай лячэбніцай.

Старшыня праўлення ААТ Валерый Мацвееў паведаміў карэспандэнту БелТА, што на прадпрыемстве абсталяваны так званыя саляныя пакоі для лячэння хвароб верхніх дыхальных шляхоў. Такую лячэбную паслугу пры жаданні можа выкарыстаць любы жыхар нашай краіны. Плата за сеанс, які працягваецца ад 10 мінут да дзвюх гадзін, — усяго дзве тысячы рублёў.

Акрамя таго, адзначыў Валерый Мацвееў, саляныя пакоі прадпрыемства абсталявала ў сваіх ведамасных дзіцячым садзе і піянерскім лагеры, а таксама на базе адпачынку ў Міёрскім раёне Віцебскай вобласці. Яшчэ два пакоі здароўя прададзены па заказах.

**Алег ШВЕДАЎ, БелТА.**

## Першы ў рэспубліцы "камунальны" судовы працэс у Гомелі завяршыўся на карысць істца

Перамогай істца завяршыўся першы ў рэспубліцы "камунальны" працэс, які цягнуўся на працягу паўтара года: гомельская рэгіянальная арганізацыя Свабоднага прафсаюза беларускага (СПБ) выйграла суд у ВА "Крышталь" у сувязі з затрымкай на 28 дзён падачы гарачай вады. Арганізацыя СПБ дзейнічала ў інтарэсах дацэнта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны Уладзіміра Пашука.

Жыллёва-рамонтны эксплуатацыйны трэст Навабеліцкага раёна затрымаў падачу ў кватэру Пашука гарачай вады з-за таго, што не атрымаў яе ад кацельнай ВА "Крышталь", у якога тады не было сродкаў на закупку энерганосьбітаў. Суд Навабеліцкага раёна Гомеля прызнаў аб'яднанне вінаватым і абавязаў яго пакрыць У.Пашуку маральную шкоду, выплаціўшы 5 мільёнаў рублёў. Старшыня рэгіянальнай арганізацыі СПБ Віктар Ялфімаў назваў выйграную справу "крокам да цывілізаванага грамадства".

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Дэмакратычныя сілы Беларусі рыхтуюцца да правядзення Кангрэса

Больш за паўтара дзесятка мерапрыемстваў плануе правесці аргкамітэт Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі да пачатку гэтага форуму, намечанага на 29—30 студзеня наступнага года. Розныя дэталі гэтых мерапрыемстваў абмеркавалі члены аргкамітэта на пасяджэнні, якое адбылося 18 снежня.

Асаблівая ўвага была нададзена правядзенню абласных канферэнцый, удзельнікі якіх абяруць значную частку дэлегатаў кангрэса. На думку членаў аргкамітэта, рэгіянальныя канферэнцыі павінны выліцца ў "магутны сродак" аб'яднання дэмакратычных сіл на мясцовым узроўні.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

## Ёсць яшчэ адно радовішча нафты!

Адкрыта яшчэ адно, шэсцьдзесят трэцяе па ліку, беларускае радовішча нафты. Гэта адбылося ў Глускім раёне Магілёўскай вобласці. Усе пошукавыя работы на свідравіне №10 Нова-Драздоўскай плошчы праводзілі спецыялісты Мазырскай нафтаразведачнай экспедыцыі. У выніку з глыбіні больш як тры тысячы метраў атрыманы фантанны прыток аб'ёмам 25 кубічных метраў ў суткі.

Як паведаміў карэспандэнту БелТА галоўны геолаг па нафце і газу вытворчага аб'яднання "Белгеалогія" Яраслаў Грыбік, на рахунку беларускіх геолагаразведчыкаў гэта ўжо другое ў гэтым годзе адкрыццё нафтавага радовішча. З ім звязаны вялікія надзеі на выкананне запланаванага прыросту агульных запасаў.

На жаль, здаць новую крыніцу ў эксплуатацыю ў найкарацейшыя тэрміны немагчыма. Геолагі адчуваюць немалыя фінансавыя цяжкасці з набыццём абсталявання для падрыхтоўкі свідравіны да работы.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Погляд

*Уладзімір ГЛОД, Уладзімір ПАДГОЛ*

# Легітымны дыктатар альбо нелегітымны ўзурпатар?

*Афіцыйныя ўлады Беларусі ўжо паведамілі пра намер правесці вясной будучага года выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Што рабіць у такой сітуацыі дэмакратычным сілам? Ці не з'яўляюцца гэтыя выбары пасткай ды прыманкай для дэмакратаў? Над такім пытаннем разважаюць аўтары артыкула.*

10 ліпеня 1999 года скончыцца пяцігадовы тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі. Абраны летам 1994 года тэрмінам на пяць гадоў першы прэзідэнт павінен пацвердзіць сваю далейшую легітымнасць. Што б Лукашэнка і яго прыхільнікі ні казалі, на якія б рэферэндумы ні спасылаліся, але ж кожны цудоўна разумее: калі да 1994 дадаць пяць, дык будзе 1999. Ні больш і ні менш.

І гэта пацвярджаюць шматлікія сацыялагічныя апытанні. Толькі не больш чым 15 працэнтаў людзей лічаць, што новыя прэзідэнцкія выбары патрэбна праводзіць у пачатку будучага стагоддзя. Нават значная частка тых, хто сёння заяўляе пра намер галасаваць і ў другі раз за Лукашэнку, перакананыя — галасаванне трэба праводзіць у 1999 годзе.

Што ж тычыцца замежжа, дык тут увогуле пытання няма. Для дэмакратычнага замежжа ўжо 11 ліпеня Лукашэнка перастане існаваць як законны прэзідэнт. Да сённяшняга дня на Беларусь не вярнуліся паслы заходніх краін. У перспектыве магчымы і закрыццё пасольстваў, і эканамічныя санкцыі.

Адмова ад новых прэзідэнцкіх выбараў ставіць Лукашэнку ў вельмі складанае становішча і ў адносінах з Расіяй. Калі беларускі прэзідэнт летам будучага года падтрымае каго-небудзь з канкрэтных прэтэндэнтаў на крамлёўскі трон, астатнія адразу паставяць пытанне: а хто такі зараз гэты Лукашэнка? І адкажуць адпаведна: ніхто, самазванец. Ды і афіцыйнае кіраўніцтва ўсходняй суседкі ў самы нечаканы час можа паставіць усё тое ж пытанне. Асабліва, калі Барыс Ельцын не будзе ўдзельнічаць у новых расійскіх выбарах.

Так што беларускаму прэзідэнту рызыкаваць складана. Ды і дзеля чаго? Дзеля так званага Асноўнага закона з дапаўненнямі і змяненнямі, прынятымі ў лістападзе пазамінулага года? Ну гэта, зразумела, несур'ёзна, паколькі прыдворныя чыноўнікі знойдуць любое апраўданне адыходу ад абвешчанага два гады таму. Ды і хіба гэта першы раз, калі Рыгоравіч парушаў свае слова?

Магчыма, нехта падумае — Лукашэнка пабаіцца праводзіць выбары ў 1999 годзе, бо ён можа іх прайграць. Адмовіцца ад выбарчай кампаніі — значыць, прызнаць сябе слабаком. А Лукашэнка ж заяўляў, што ён не проста пераможа, а яшчэ і набярэ 90 працэнтаў галасоў. Ведае, што кажа. Таму, на наш погляд, і правакуе апазіцыю: маўляў, я выбараў не хачу. Але ж калі вы так настойваеце... Прыкладна так, як гэта было два гады таму. Тады прэзідэнт таксама хацеў праводзіць рэферэндум 7 лістапада, але ж затым "саступіў" апанентам. Тонкі прыёмчык. Чаму не паўтарыць яго яшчэ раз?

Хаця хто яго ведае, як будзе на самай справе. Аляксандр Рыгоравіч — чалавек непрадказуемы. Ды і, наколькі нам вядома, у акружэнні пакуль яшчэ легітымнага кіраўніка дзяржавы няма адзінай пазіцыі па гэтым пытанні: адна група піша аналітычную запіску, у якой прапануе абавязкова праводзіць прэзідэнцкія выбары ў будучым годзе, другая настойвае на 2001-м. І нават з далёкага Токіо рэгулярна дасылае свае парады прэзідэнту пасол Краўчанка...

А таму, нам здаецца, ёсць сэнс разгледзець магчымыя варыянты падзей.

Лукашэнка правядзе выбары ў мясцовыя саветы ў сакавіку 1999 года. Мэта такой акцыі — даказаць Захаду, што на Беларусі ёсць дэмакратыя. Тут прэзідэнцкі бок, безумоўна, улічвае той факт, што ў шэрагу апазіцыйных лідэраў адчуваецца моцны зуд удзельнічаць у выбарах: ад мясцовых да прэзідэнцкіх. Мясцовыя выбары Лукашэнка можа правесці сумленна. Тут яму няма за што хвалявацца. На фоне яго "вертыкалі" мясцовыя дэпутаты нічога не вырашаюць і не будуць вырашаць. Звязанасць іх рук цудоўна бачна на прыкладзе цяперашняга Мінскага гарадскога савета, дзе сабралася даволі многа прыстойных людзей, але якія нічога вялікага зрабіць не могуць. Ні законы, ні "вертыкальныя" ўлады не дазваляюць.

Да таго ж удзел апазіцыянераў у выбарах у мясцовыя саветы Лукашэнка, зразумела, растлумачыць па-свойму: маўляў, крычалі, крычалі, не прызнавалі рэферэндумаўскія змены, а на выбары, якія будуць праводзіцца па новым законе, пабеглі. І пра прынцыповасць забыліся, так хочацца ўхапіць улады... Да таго ж мясцовыя выбары, як апошнія па часе, аўтаматычна перакрываюць для міжнароднай супольнасці ўсе парушэнні так званага лістападаўскага рэферэндуму. Значыць, апазіцыя сваім удзелам прызнала Канстытуцыю 1996 года.

Нават калі апазіцыя і набярэ шмат галасоў на мясцовых выбарах, прэзідэнт праз пэўны час выкарыстае свой любімы прыём — зробіць з іх ворагаў народа, якія нахапалі прывілеяў, пражыраюць народныя грошы і балбочуць. Адпаведна, ён пастараецца зваліць на апазіцыю ўсе грахі свайго рэжыму.

Прыцягнуўшы апазіцыю на мясцовыя выбары, Лукашэнка можа адначасова правесці:

датэрміновыя выбары прэзідэнта Беларусі (маўляў, я нікога і нічога не баюся);

датэрміновыя выбары парламента Беларусі (як быццам уступку міжнароднай супольнасці);

выбары ў адзіны парламент Саюза Расія — Беларусь (мецъ на ўвазе магчымасць абрання адзінага прэзідэнта федэратыўнай альбо канфедэратыўнай краіны не ўсім народам, а дэпутатамі адзінага парламента);

рэферэндум аб даверы прэзідэнту (маўляў, народ мяне зноў падтрымлівае);

рэферэндум аб палітычнай інтэграцыі з Расіяй (як працяг інтэграцыйнай тэмы);

усё вышэйпералічанае ў нейкай камбінацыі.

Складанасць для выбаршчыкаў вялікай колькасці пытанняў — не праблема для Лукашэнкі. Як і розных выбараў. Нездарма ж прэзідэнт неаднаразова дэманстратыўна заяўляў, што яго кандыдатуры атрымаюць на выбарах у парламент 90, а то і 100 працэнтаў галасоў. Як гэта робіцца, мы ўжо бачылі падчас сфальсіфікаванага рэферэндуму ў лістападзе 1996 года.

І вось тут узнікае праблема паводзін для апазіцыі. Калі пайсці на любыя выбары па названым сцэнарыі, не маючы доступу ў СМІ, — гэта значыць сыграць ролю ў палітычным спектаклі на карысць Лукашэнкі нават не ў якасці статыстаў, а ў якасці хлопчыкаў, якія падаюць мячы дарослым футбалістам з-за варот. А футбаліст-хакеіст будзе ганяць сваімі ўдарамі дэмакратычных хлопчыкаў далёка ад трыбун з гледачамі. Па тэлебачанні іх не пакажуць, да радыё не дапусцяць. Вынікі такіх "выбараў" лёгка спрагназаваць ужо сёння.

Байкатаваць выбары — шлях, на наш погляд, рызыкоўны. Адразу з адмовай ад выбарчай кампаніі ў дзяржаўных СМІ пачнецца самы сапраўдны вэрхал: глядзіце ўсе, якія яны слабакі, баязліўцы, палітычныя імпатэнты... У свядомасці насельніцтва гэтыя вобразы так і захаваюцца.

Выходзіць, і так дрэнна, і так дрэнна. І выйсця няма? Ёсць! І вельмі простае. Спачатку ўлады выконваюць патрабаванні, а потым у залежнасці ад іх выканання апазіцыя вырашае, што рабіць. Патрабаванняў жа можа быць мноства: і вызваленне палітычных вязняў, і вяртанне старога складу Цэнтрвыбаркама, і штодзённы доступ да дзяржаўных СМІ, у першую чаргу электронных... Тут ініцыятыва цалкам у руках апазіцыі. Такіх патрабаванняў можна налічыць і два, і тры дзесяткі. А калі ўлады іх не выканаюць, дык пра якія выбары можна казаць? Хай сабе ўлады ў іх і ўдзельнічаюць. Хай выводзяць хоць 99, хоць 100, хоць 120 працэнтаў даверу. Вынікі такіх выбараў ніхто не прызнае, і свет яшчэ раз убачыць сапраўдны твар беларускага рэжыму. А цікавасць замежных мас-медыа, у першую чаргу расійскіх, да байкоту прыцягне ўвагу і нашага электарату.

І калі браць ініцыятыву ў свае рукі, дык тады не апазіцыя будзе думаць — удзельнічаць альбо не ўдзельнічаць у выбарах, — а Лукашэнка будзе бегаць за ёй з просьбай: паўдзельнічайце, калі ласка, даражэнькія. І зразумела, што толькі круглы дурань можа згадзіцца пайсці на мясцовыя выбары ў сакавіку будучага года. Пасля таго як дзяржаўныя СМІ чатыры гады палівалі дэмакратаў брудам, нават пры ўмове допуску да тэлебачання і радыё, да старонак дзяржаўных газет, трэба працяглы час, каб перабіць увесь негатыў. За два-тры месяцы гэтага ніколі не зробіш.

Ёсць і трэці варыянт. Апазіцыя можа ўзяць ініцыятыву ў свае рукі і правесці летам 1999 года альтэрнатыўную акцыю. Па змесце гэта могуць быць:

1) сімвалічныя выбары прэзідэнта (скрынкі можна паставіць у штаб-кватэрах палітычных партый, а галасаваць па пашпартах);

2) рэферэндум аб інтэграцыі Беларусі з Еўропай;

3) рэферэндум аб даверы прэзідэнту;

4) грамадскі суд над Лукашэнкам за парушэнне законаў і Канстытуцыі.

Магчыма ўсё гэта правесці як паасобку, так і разам у сістэме. Пакуль рэаліі такія. Падручныя Лукашэнкі запускаюць ідэі аб правядзенні летам рэферэндуму аб даверы Лукашэнку і апазіцыйным лідэрам. А з боку апазіцыі не было ніводнай улёткі, якая б накрыла усю Беларусь — няма сродкаў.

Толькі Генадзь Карпенка пастаянна выклікае Лукашэнку на палітычны паядынак — выбары. І гэта добра, паколькі палітычная актыўнасць Карпенкі на гэтым этапе прыводзіць да таго, што насельніцтва, якое, акрамя Лукашэнкі, нікога не бачыць і ўпэўнена, што больш на Беларусі палітыкаў няма, пачынае пакрыху сумнявацца ў здольнасцях свайго куміра наладзіць нармальнае жыццё. Людзі задумваюцца: калі ў Расіі столькі кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, то мы што — горшыя?

Ведаючы характар нашых палітычных лідэраў з лагера апазіцыі, можна прадбачыць, што, як толькі Лукашэнка павабіць іх прэзідэнцкімі выбарамі, знойдзецца з пяток чалавек, якія кінуцца ў бойку на любых умовах. Мэта будзе адна. Набыць паболей капіталу: і палітычнага, і сапраўднага. Ад гэтага Беларусь толькі страціць. І самае небяспечнае, што страціць незалежнасць. І тады пацвердзяцца словы Лукашэнкі: "Будзеце вечнай апазіцыяй".

Больно!

# На рождение в казне денег нет

Ни одно цивилизованное государство не может позволить себе такую армию чиновников и милиционеров, какую расплодили мы. Когда в стране нет бензина и солярки и из-за этого во многих местах не убран урожай и не посеяны озимые под урожай будущий, не стыдно ли сопровождать президента кавалькадой машин и ставить уйму бдящих во всех подворотнях? Кто-нибудь вел подсчеты, во сколько обходится нам президент и его команда, не улучшившая за эти годы жизнь ни на грош?! Со всех концов просят: подайте, помогите, спасите! И под собственные вопли погибают. Кто оплачивает показательные судебные процессы, от которых у нормальных людей останавливается кровь в жилах? Сколько получают за липовые отчеты статисты, лжесвидетельствующие, что есть подъем экономики, сельского хозяйства и даже строительства?

А между тем вопреки этой лжи и пропаганде, из которых "шьется" платье голого короля, люди умирают, так и не дождавшись никакой помощи и заботы со стороны государства. Оно вообще не бьет тревогу, что новорожденные в нем — редкость, и даже не знает, что на свет появляются больные дети. Может, чернобыльская беда тому виной, но Беларусь лидирует не только по раку щитовидной железы, но и по фенилкетонурии — каждый 27-й белорус является ее носителем и имеет поврежденный ген в одной хромосоме.

Один младенец из шести тысяч маленьких белорусов получает от родителей два поврежденных гена в двух хромосомах и рождается больным фенилкетонурией. В крови такого ребенка в избыточном количестве накапливается фенилаланин и продукты его распада, которые повреждают центральную нервную систему. Чем меньше ребенок, тем тяжелее последствия такого отравления. К счастью, болезнь лечится специальной диетой, из питания исключаются продукты с высоким содержанием белка, и постоянно контролируется уровень фенилаланина в крови. Внешне новорожденный ничем не отличается от здоровых детей, выявить болезнь может только скрининг-тестирование. Для этого необходим обученный персонал, капелька крови младенца, химические реактивы и фильтровальная бумага для взятия анализа и пересылки его в медико-генетический центр. Так вот, реактивы и бумага кончились. Несмотря на все старания врачей, наше государство не в состоянии закупить такую малость. Пропадайте пропадом, все новорожденные с муковисцидозом, гиперплазией коры надпочечников, врожденным гепотиреозом. Мучайтесь, родители, плачьте над своими чадами и потом сдавайте их в специнтернаты, у государства есть деньги содержать пожизненно таких граждан, но нет жалости помочь им не стать инвалидами.

Как страшно, когда у власти невежественные и плохо образованные люди. Куриные яйца они называют "нормальными человеческими", на все вопросы проблемного характера кричат: "фатит!". Может, и "фатит", но сколько же терпеть это ценовое безумие, это обнищание больниц и клиник, пустые обещания запустить все и вся. Да все уже запущено до ручки, но маленькие граждане этого пока не знают. Они спешат сменить тех, кто ушел, переступив черту в полном смятении от наших перемен, неосуществленных реформ и оправдательной говорильни.

Новопришедшие могут многое изменить и добиться когда вырастут, если им помочь сейчас. Эти наследственные болезни лечатся, надо только выявить их с помощью исследования, ибо внешних признаков они не имеют. В сотни семей пришла беда. Двадцать лет в наших роддомах проводилось скрининг-тестирование всех новорожденных. Генетики-энтузиасты ездили по всей Беларуси, обучали персонал. А что теперь? Налаженная и четкая система рухнет — и станут плодиться дети-инвалиды?

В июле выручила Грузия, одолжила реактивы для исследования крови больных фенилкетонурией, но их хватит лишь до конца декабря. Минздрав выделил некоторую сумму на фильтровальную бумагу и реактивы для скрининга новорожденных, но они застряли в очереди на конвертацию и превратились в гроши.

Я представляю, с каким чувством идет на работу в медико-генетический центр заведующая лабораторным отделением Нина Борисовна Гусина. Молодые мамы и папы, с волнением ждущие ребенка, не подозревают, какое горе уготовило им наше нищее государство, но она-то знает сущность проблемы, знает, что всех детей можно спасти, если с первых часов их жизни обнаружить таинственную болезнь. Через месяц может быть поздно. Даже через неделю. Какую стену пробить, кому писать докладные, которые скоро составят том деловой переписки? Или надо, чтобы у президента родился больной внук? Грешно желать другим плохое, но именно болезни чиновников порой помогают делать ремонт в больницах, укладывать асфальт в больничных дворах, закупать нужные приборы и лекарства. Когда их прижмет, они неожиданно прозревают.

Для детей, страдающих вышеперечисленными болезнями, в других странах производятся специальные продукты, у нас и речи о них не ведут. Без белкового гидролизата больным детям не прожить и дня. Но его нет по вине господ чиновников.

Возможно, им кажется, что число таких новорожденных невелико и природа сама совершит естественный отбор. Вымрут. Но в том-то и дело, что эти дети цепляются за жизнь, как никакие другие. Им надо только протянуть руку помощи. Где же эта рука? На сегодняшний день в Беларуси 370 тысяч носителей фенилкетонурии, более миллиона — муковисцидоза, сотни тысяч носителей гиперплазии коры надпочечников. К тому же после Чернобыля нет никакой гарантии, что у всех нас не будет мутаций и поврежденных генов.

В нашей истории уже было время, когда плевали на генетику и самых талантливых травили, как тараканов, гноили их в лагерях. Наука, медицина и все человечество жестоко поплатились за это. Неужто грядет вторая волна?

**Лилия ЛОМСАДЗЕ.**

Дажыліся

## Навагоднае свята без яек і масла

Сцвярджэнні афіцыйнай прапаганды аб нармалізацыі сітуацыі на спажывецкім рынку краіны, асабліва ў глыбінцы, мякка кажучы, не адпавядаюць рэальнасці. Канешне, у невялічкіх гарадках і пасёлках няма тых шматгадзінных сталічных чэргаў і паліцы магазінаў больш-меньш запоўненыя таварам. Вось і ў райцэнтры Докшыцы Віцебскай вобласці нават вечарам можна свабодна купіць малако 2,5-працэнтнай тлустасці, іншыя малочныя вырабы мясцовага завода, маючы грошы, можна дакупіцца мясапрадуктаў і каўбас, перад навагоднім святам абяцаюць "выкінуць" у продаж шампанскае коштам 270—280 тысяч рублёў.

Але на гэтым спажывецкая ідылія і заканчваецца. Нечакана тут, як і ў большасці іншых райцэнтраў вобласці, паўсталі праблемы са сметанковым маслам і зусім прапалі яйкі. Масла Докшыцкае спажывецкае таварыства мела на рэалізацыю ў снежні 2 тоны. Падлічылі, калі яго рэалізоўваць па нормах, нават па 100 грамаў на чалавека не атрымаецца. А з яйкамі дык зусім бяда, іх няма нават для патрэб уласнай вытворчасці, з-за чаго прыпынены выпуск маянеза, белабулачных вырабаў. Без яек нельга спячы да каляд тартоў. Законы эканомікі суровыя, яны слаба паддаюцца намаганням розных там штабоў, дэлегацый правяраючых і кантралёраў, якія зачасцілі цяпер па магазінах. Для простага ж чалавека зноў важнейшай становіцца праблема "дастаць", а не купіць, а яшчэ лепш мець свайго знаёмага прадаўца.

**Уладзімір ШЫК.**

## Опять столы заказов!

По инициативе Министерства торговли при промышленных предприятиях и организациях возобновляются столы заказов. В этих закрытых точках члены трудовых коллективов смогут приобретать сметану, яйца, мясо и другие дефицитные продукты питания.

В республике уже открыто более 200 столов заказов.

**БелТА.**

Экономическая

*Василий ШЛЫНДИКОВ*

# Хозяйственные объединения

*Предлагаем вниманию читателей очередную статью о необходимых экономических преобразованиях, без которых улучшить жизнь людей нельзя. Автор — известный промышленник, председатель Комиссии по экономическим реформам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, заместитель председателя Объединенной гражданской партии Василий ШЛЫНДИКОВ.*

Хозяйственные объединения имеют важное значение в повышении эффективности функционирования национальных экономик. Это подтверждает не только отечественная, но прежде всего мировая практика. Концерны, холдинги, картели, синдикаты, корнеры, консорциумы, группы, конгломераты, тресты стали повседневной реальностью эффективных экономик.

В хозяйственных объединениях возникает значительный эффект за счет экономии на расходах, уменьшения числа рабочих и служащих, специализации, сокращения расходов из-за ликвидации дублирования НИОКР, объединения административно-управленческих систем компании в едином центре, концентрации там интеллекта (мозгового центра). Совокупные производственные мощности хозяйственных групп способны сокращать издержки на единицу продукции за счет реализации эффекта масштаба. При этом появляются возможности внедрения технологических и управленческих инноваций. У нас мало заводов, которые в состоянии за короткий период полностью переоснаститься, что обрекает большинство предприятий в условиях рынка на банкротство.

В то же время хозяйственные группы предприятий за счет централизации прибыли имеют возможность переоснащать поочередно свои предприятия на основе новейших достижений науки и техники. В свое время автор имел возможность видеть все это своими глазами на предприятиях концернов "Комацу" (Япония), "Вольво" (Швеция) и ряда других хозяйственных объединений в Западной Европе, США. Именно крупные административно-хозяйственные структуры демонстрируют миру свою эффективность. В Японии последние послевоенные десятилетия промышленный комплекс размежевался по существу на шесть равновеликих экономических комплексов, конкурирующих между собой: "Мицубиси", "Санва", "Фуе", "Сумитомо", "Дайити-Канге", "Мицуи". Их деятельность распространяется фактически на все отрасли. Это своего рода финансово-торгово-промышленные группы — сюданы. Шесть указанных выше сюданов контролируют примерно 30 процентов общего промышленного производства страны. Аналогично функционируют крупные южнокорейские промышленные группы — чеболи. Именно они являются основной формой организации всей промышленности этой страны. Практически все крупные и средние предприятия принадлежат различным группам, которых насчитывается несколько десятков. Крупнейшие среди них — "Самсунг", "Хенде", "Лаки-Голдстар", "Дэу".

Всем хорошо известен опыт бывших советских производственных и научно-производственных объединений (ПО, НПО). По собственному опыту знаю, насколько эффективно включение в состав такого объединения предприятия, имеющего серьезные проблемы. Бывало достаточно только организационных решений при небольшой финансовой помощи, как предприятие буквально на глазах раскрывало свой потенциал. Мозговой штаб головного предприятия без особых усилий, зачастую требуя: делай, как я, — выводил отстающее предприятие в эффективно работающее.

Некоторое понимание необходимости организации хозяйственных групп есть и у нашего правительства. Существует Указ президента Республики Беларусь №482 от 27 ноября 1995 г. "О создании и деятельности в республике хозяйственных групп".

Указом определено, что хозяйственной группой является совокупность юридических лиц (участников групп), осуществляющих хозяйственную деятельность и объединенных между собой одним из нижеперечисленных способов:

— одному участнику группы (головному предприятию) принадлежит доля в имуществе каждого из иных участников групп или другие допускаемые законодательством права таким образом, что эта доля или эти права обеспечивают головному предприятию возможность принятия или отклонения решений в высшем органе каждого иного участника хозяйственной группы;

— один участник группы (доверительный руководитель) осуществляет доверительное управление имуществом иных участников группы (доверителей) на основании договора доверительного управления имуществом;

— каждый из участников группы входит в состав высшего органа управления иных участников группы, но не может единолично обеспечить принятие или отклонение решений этого органа.

Указом предусмотрено, что:

1. Хозяйственная группа не является юридическим лицом. Статус юридического лица могут иметь органы и учреждения, создаваемые участниками группы для координации их хозяйственной деятельности.

2. Хозяйственные группы подлежат регистрации при условии положительного заключения Министерства по антимонопольной политике в порядке, определенном Кабинетом министров Республики Беларусь.

На этот счет есть Постановление Кабинета министров Республики Беларусь №402 от 19 июня 1996 г. "О государственной регистрации финансово-промышленных и иных хозяйственных групп, оказании им государственной поддержки, предоставлении правительственных гарантий".

Приказом Министерства экономики Республики Беларусь от 16 августа 1996 г. №47 утверждено положение о государственном реестре финансово-промышленных и иных хозяйственных групп Республики Беларусь.

Вместе с тем вышеназванных нормативных актов крайне недостаточно для успешного функционирования хозяйственных групп. Нужен закон "О хозяйственных объединениях", который учел бы опыт других стран: как положительный, так и отрицательный, дал бы возможность преобразовать крупные предприятия, такие как тракторный, автозавод, "Интеграл" и другие в хозяйственные группы, куда можно было бы привлечь капитал различных инвесторов. Классическим примером грамотного подхода в преобразовании предприятия является объединение "Луч", которое на базе существующих мощностей создало несколько предприятий с иностранным капиталом. Вместе с тем и тот же тракторный и другие не могут воспользоваться опытом ПО "Луч", потому что у них иная структура производства, да и ПО "Луч" в существующих законодательных ограничениях деятельности предприятий и объединений эффективно развиваться не сможет, даже если сохранится как хозяйственная группа.

Вот почему важно создать условия для самоорганизации и организации объединений предприятий. Именно они способны создать конкурентоспособный продукт и продвинуть этот продукт на мировые рынки. При создании хозяйственных объединений, по моему глубокому убеждению, нужно законодательно

